

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 15(21) 12 жніўня 1992 г. Цана 1 рубель

# ЗАЯВЛЕНИЕ

## совета Объединенной демократической партии Беларуси о необходимости создания в Республике свободной банковской и инвестиционной зоны

Экономика Беларуси продолжает оставаться в состоянии глубокого кризиса. Бессистемные и малоэффективные решения, принимаемые правительством и Верховным Советом, не дают желаемых результатов.

Органами государственной власти не решаются главные проблемы, без разрешения которых немыслимо развитие экономики, раскрепощение инициативы и повышение благосостояния людей:

—сохраняется тотальная монополия государственной собственности, жизненно необходимая приватизация фактически не осуществляется, что приводит к незаконному растаскиванию госсобственности;

—не проводится земельная реформа, саботируется выделение земельных участков желающим работать на собственной земле;

—развитие предпринимательства поддерживается только на словах, на деле же тормозится конфискационной налоговой политикой. Ситуация усугубляется тем, что в ближайшее время нас ждут новые трудности. В результате неизбежного освобождения цен на сырьё и энергоносители Беларусь, имеющая развитую перерабатывающую промышленность и незначительные запасы сырья, окажется в исключительно сложном положении.

Предстоит значительное снижение объёмов производства, рост безработицы и дальнейшее падение уровня жизни людей. Если не будут предприняты меры по увеличению инвестиций в нашу экономику как белорусского, так и иностранного капитала, не останется реальных шансов преодолеть кризис.

Мы считаем, что в такой критической ситуации необходимы незамедлительные меры по приватизации государственной собственности, либерализация налогового законодательства и всех сторон хозяйственной деятельности, конституирование священности и неприкосновенности института частной собственности. Решительные шаги в этом направлении продемонстрируют приверженность Беларуси политике реформ, позволят увеличить инвестиции в экономику Республики, в том числе привлечь иностранный капитал, современные технологии и управленческий опыт.

Это единственное решение, позволяющее с наименьшими потерями и с высокими темпами провести структурную перестройку экономику, создать новые рабочие места и ослабить зависимость от монопольных поставщиков сырья.

Выгодное географическое расположение, относительно развитая инфраструктура, общественная стабильность, отсутствие межнациональной и религиозной нетерпимости являются благоприятными условиями для инвестиций в промышленность и сельское хозяйство Беларуси. Однако необходимы дополнительные меры в этом направлении.

Мы предлагаем создать на территории Республики свободную банковскую и инвестиционную зону, предприняв с этой целью следующие шаги:

—установить льготные ставки налогообложения банков, инвестиционных компаний, а также компаний, формирующих информационную инфраструктуру бизнеса;

—обеспечить благоприятные организационные условия для создания новых коммерческих банков;

—гарантировать право на беспрепятственный вывоз прибыли;

—установить дополнительные налоговые льготы на инвестиции в экономику Республики.

Опыт европейских стран показывает, что для экономического процветания необязательно иметь большую территорию или гигантскую минерально-сырьевую базу. Обязательным является создание условий для реализации творческой и предпринимательской инициативы людей.

Мы убеждены, что в Республике Беларусь есть все необходимое для создания крупного международного финансово-кредитного центра в результате реализации проекта свободной банковской и инвестиционной зоны.

1992 год для Беларуси—год выбора экономической и геополитической стратегии, и от этого выбора зависит наше будущее. Мы предлагаем выбрать путь к свободе человека, путь к свободной экономике.

Председатель ОДПБ
**А. ДОБРОВОЛЬСКИЙ.**





**Сустрэча з суайчыннікамі**

*Бел-чырвона-белымі сцягамі прывітаў Віцебск шматлікую групу нашых суайчыннікаў—цяпер жыхароў ЗША й Канады, якія сустрэліся ў тэатры з грамадскасцю горада. Цёплае спатканне віцьблян і нашых беларусаў-эмігрантаў завяршылася адспяваннем апошнімі колькі беларускіх песняў.*
**Н. ПРЫСУТНЫ.**

## Хотим перемен

5—6 августа 1992 года социологическая группа Витебского городского клуба избирателей «За демократические выборы» провела опрос среди жителей города по вопросу: **как вы относитесь к предложению оппозиции досрочно распустить парламент и провести новые выборы?**

«За» высказалось 38% опрошенных, 24%—за сохранение существующего Верховного Совета и не определили свою позицию—38%.

**С. РУБИН,**
**социолог.**

# Кааліцыя трох і шлях да выратавання беларускага народа

Ці існуеш яшчэ ты, беларускі народ? Ці захаваў ты сваю адметнасць, свой непаўторны фальклор, паданні, традыцыі?.. А можа згубіў ты ўжо ўсё гэта, як згубіў сваю мову, што ёсць крою народа? І калі гэта так, дык не варта, магчыма, і адраджаць беларускую нацыю, хай ужо цалкам зліваецца з рускай, ці дакладней «савецкай» нацыяй, бо і рускім такі «прадукт» камуністычнай апрацоўкі цяжка назваць.

Нездарма ўзнікаюць гэтыя пытанні. 75 год улады бальшавікоў прывялі да жудасных вынікаў. Былі знішчаны — фізічна, ці духоўна—цэлыя народы і, відаць, да найбольш пацярпелых трэба аднесці беларускі.

Да бальшавіцкага перавароту 1917 г. больш за 100 год Беларусь, як і многія іншыя акупаваныя народы, была ў складзе Расейскай імперыі. Згубіўшы нават сваю гістарычную назву,—Беларусь стала «Северо-Западным краем»,—яна, тым не менш, захавала свой самабытны народ, сваю мову і іншыя прыкметы нацыі. І калі прыйшлі бальшавікі, Беларусь прадстала перад імі вялікім 12-цімільённым народам, які называўся беларускім і засяляў галоўным чынам вёскі і дробныя гарады на вялікім абшары тэрыторыі ад Беласточчыны да Смаленшчыны, ад Віленшчыны да Чарнігаўшчыны.

Дзеля сцвярджэння фантастычнай ідэі ўсеагульнай роўнасці, усталявання раю на зямлі для пралетарыяў—бальшавікі пайшлі на гвалт і забойства мільёнаў людзей.

У першую чаргу былі знішчаны рэлігія і святары. Гэта зразумела, бо хрысціянскія ідэі адмоўлення гвалту, усеагульнай любові ды міласэрнасці былі варожымі камуністычнай, д'ябальскай навале. У 20-я—30-я гады XX стагоддзя былі забіты і сасланы ў Сібір тысячы мірных святароў і манахаў. Вандалізм у дачыненні да помнікаў архітэктуры і дойлідства набыў характар дзяржаўнай палітыкі і працягваўся аж но да нашых дзён. У процівагу гэтаму перад вайной у Заходняй Беларусі была створана партыя—хрысціянска-дэмакратычная злучнасць (ХДЗ)—мэтай якой было захаванне хрысціянскіх традыцый і стварэнне ўмоў для развіцця беларускіх нацыянальных храмаў, падрыхтоўкі святароў і іншай дабрачыннай дзейнасці. Пасля працяглага перапынку дзейнасць ХДЗ была летась адноўлена і зараз яна пачынае свае першыя, але святыя крокі па адраджэнню беларускай хрысціянскай дэмакратыі.

Пасля першага здзеку над беларускім народам (20-я гады XX ст.) бальшавікі здзейснілі другі акт генацыду: яны знішчылі мозг нацыі—інтэлігенцыю. Гэта акцыя, якая пачалася ў 1929 г. і закончылася ўжо ў нашыя дні (прыгадаю лёс не так даўно памершага таленавітага паэта, крытыка і празаіка Міхася Стральцова, які падарваў свае здароўе ў Мазырскім ЛПП).

Колькі б добрага яны маглі зрабіць для нас, для ўсяго чалавецтва, нашыя далёкія папярэднікі 20-х гадоў, нашыя шаноўныя нацдэмы! У росквіце сіл, паспеўшы толькі закласці падмурак (але які магутны!) беларускага нацыянальнага адраджэння, маладой беларускай літаратуры, культуры і навукі, яны склалі свае галовы нават не ўсвядоміўшы канібальнай сутнасці бальшавізму,—

(Заканчэнне на 7-й стар.)

**Пётр КРАЎЧАНКА:**

# «Традыцыйная беларуская талерантнасць стала класічнай у Еўропе»

*Паважаная рэдакцыя! Нядаўна ў Віцебску пабываў міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь. З чым гэта было звязана? Вельмі цікава!*

**Б. Зелянкоў.**

**Шаноўны спадар ЗЕЛЯНКОЎ!**

**Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка быў удзельнікам Шагалаўскіх дзён у Віцебску. Рэдакцыя змяшчае яго прамову на адкрыцці помніка Марку Шагалу 5 ліпеня 1992 года.**

Шаноўная грамада! Дарагія сябры! Паважаныя замежныя госці! Наша родная зямля дала свету не толькі нашых святароў, нашы духоўныя крыніцы, якімі з'яўляюцца Купала, Колас і Багдановіч, але наша Бацькаўшчына дала свету славутыя і знакамітыя імёны, славутых і знакамітых людзей. Мы сёння гаворым з гонарам, што сваімі каранямі з Беларуссю звязаны і вялікі рускі пісьменнік Фёдар Дастаеўскі, і выдатны рускі і амерыканскі кампазітар Ігар Стравінскі, і выдатны польскі і славянскі паэт Адам Міцкевіч.

Але сёння мы з велізарным гонарам гаворым і пра сына Віцебшчыны, гаворым пра Марка Шагала. Практычна сёння зорка Марка Захаравіча паяўляецца на беларускім небасхіле, я ўпэўнены, яна будзе зіхацець многія дзесяцігоддзі і стагоддзі.

Дзякуючы сваёй працы, мне даводзілася ў многіх, у дзесятках краін свету сустракацца з творамі Шагала: і ў далёкай Японіі, у прыватных галерэях, дзе творы гэтага мастака карыстаюцца велізарнай павагай і, зразумела, у Парыжы, у Францыі, на поўдні Францыі ў Грасе, у Іерусаліме.

Літаральна нядаўна ў складзе беларускай дэлегацыі я быў у Ізраільскім кнесеце, і магу адзначыць, якой велізарнай павагай карыстаюцца трыпціх, габелены Марка Шагала, якія з'яўляюцца практычна сёння гонарам такой дзяржавы, як Ізраіль.

У верасні 1990 года я ўпершыню ўбачыў вітражы Шагала ў славутым будынку Арганізацыі Аб'яднаных Нацый на Іст-Рывер. І можна сёння называць яшчэ дзесяткі краін, дзесяткі галерэй, дзе творы Шагала праслаўляюць гісторыю, культуру, псіхалогію яўрэйскага народа, французскага народа, і, я думаю, праслаўляюць нашу родную Беларусь.

Няпросты лёс Шагала. У яго жыцці было ўсё. І пасля смерці было многае. Але гэты час дазваляе нам зрабіць тое многае, дзякуючы намаганням грамадскасці, гарадскіх улад, сваякоў Марка Захаравіча і ўсіх людзей добрай волі.

Я б хацеў падкрэсліць і расказаць дзве невялікія гісторыі, якія адбыліся літаральна некалькі месяцаў таму назад. У красавіку 1991 года лёс закінуў мяне ў Швейцарыю, у невялічкі горад Марціны, дзе праходзіла сусветная выстаўка Марка Шагала. Я хацеў бы расказаць віцяблянам пра чалавека, які вельмі многае зрабіў для Шагала. Гэта пан Джанада, у яго трагічна адышоў ад жыцця брат. У яго гонар ён пабудаваў галерэю ў гэтым швейцарскім горадзе. І вось год таму назад пан Джанада наладзіў сусветную выставу Шагала, на якой былі прадстаўлены 235 работ з музеяў і прыватных калекцый былога Савецкага Саюза. І вось тыя карціны, рэпрадукцыі, з якімі вы знаёмыя, упершыню паказваліся ў далёкай Швейцарыі, паказваліся еўрапейскай грамадскасці. І што цікава, парыжскае тэлебачанне, якое ніколі не вядзе перадач з іншых гарадоў, іншых краін, тры разы прыязджала ў невялічкі горад Марціны, каб з месца падзей весці перадачу пра Шагала. Гэта была сенсацыя. І ад імя беларускай грамадскасці, дзякуючы вашым уладам я ў красавіку 1991 года перадаў матэрыялы першых Шагалаўскіх дзён у Віцебску пану Джанаду, і ён з вялікай удзячнасцю ўспрыняў іх, і адразу ўсе гэтыя матэрыялы былі выстаўлены ў экспазіцыі сусветнай выстаўкі Шагала.

І другі момант. Літаральна ў сакавіку гэтага года лёс закінуў мяне ў Фінляндыю. Я даведаўся, што недалёка ад Хельсінкі, у ста кіламетрах, знаходзіцца былы знаёмы і сябра Марка Шагала. Гэта фінскі мастак Ахола Вала, Алесь Ахола Вала, юнацтва якога прайшло тут, у Віцебску. У часопісе «Сіксі» гэты мастак пакінуў карту Віцебска, дзе нанесены 22 кропкі, звязаныя з Шагалам, з Пэнам, з Азгурам і іншымі славутымі вашымі землякамі. І ў бліжэйшы час ксеракопію гэтай карты я перадам вашым музейным работнікам. Магчыма, яшчэ будуць знойдзены мемарыяльныя кропкі, якія дазволяць паглыблена вывучаць жыццё і творчасць Марка Захаравіча.

У канцы я хацеў бы звярнуць увагу нашых гасцей з Расіі, Нямеччыны, з іншых краін на адну спецыфічную рысу беларускага і яўрэйскага народаў. Мы заўсёды на гэтай зямлі, дарэчы, як і палякі, літоўцы, татары, караімы, жылі як браты. За восем стагоддзяў нашай агульнай гісторыі ні разу не было ніводнага прыкрага прыкладу адносна яўрэяў. Традыцыйная беларуская талерантнасць стала класічнай у Еўропе. Я думаю, што сёння мы павінны захаваць яе. Мы бачым, што адбываецца ў свеце. Мы бачым, што адбываецца ў замежных і сумежных дзяржавах. Я думаю, што наша памяркоўнасць, наша талерантнасць, наша павага да саміх сябе, наша павага да нашых братоў, братоў рознай крыві, з'яўляецца гарантам таго, што Беларуская дзяржава, маладая Беларуская дзяржава, уздымаецца і зойме пачэснае месца ў свеце.

Са святам вас, дарагія віцяблянe!



**На здымку:** Пётр Краўчанка выступае на адкрыцці помніка Марку Шагалу ў Віцебску 5 ліпеня 1992 года.

---

*А что, если так?*

# НЕ ТОТ ПУТЬ ИЗБРАЛИ, ГОСПОДА-ТОВАРИЩИ...

**Уважаемая редакция!**

**Предлагаю материал, который был готов еще до принятия Закона РБ о приватизации жилья, но по разным причинам не увидел свет.**

*К сожалению, в принятом Законе много недоговорок и невнятностей, так что простому смертному трудно и разобраться, что к чему. К тому же почти вся конкретика о размерах приватизационной квоты вновь отдана в руки исполнительной власти—Совету Министров. Так что наши граждане только могут догадываться о размерах приватизационной квоты.*

*Еще. Правительство нашей Суверенной Беларуси, как и предыдущие Союзные, действует в старом ключе: вначале оно хочет раз потрясти карманы своих граждан, бросив им приманку приватизации жилья. При этом оно ссылается на недостаток средств в сегодняшней казне.*

*Но реализация жилищной квоты растянется на годы, если не на десятилетия, а это не грозит банкротством казне. Но, выкачав из своих граждан путем постоянных недоплат огромные средства, наше государство не желает вернуть долги своим обнищавшим гражданам. Не тот путь избрали, господа-товарищи, не о благоденствии народа печетесь, а о сиюминутной выгоде.*

*С таким подходом правительству, забывшему о благе народа, долго не удержаться, как и Верховному Совету.*

*А ведь существуют и более простые и ясные пути приватизации жилья. Один из них и предлагает автор.*

*Несмотря на то, что Закон о приватизации жилья принят, он настолько туманен и далек от реальной жизни, что я призываю граждан требовать его пересмотра. В конце концов мы должны иметь хотя бы кров над головой.*

**В. ЛЕОНЕНЯ.**

*г. Полоцк.*

# ФОРМУЛА ПРИВАТИЗАЦИИ ЖИЛЬЯ

Изучение вопроса приватизации жилья, дебаты в парламенте показывают, что решить эту проблему хотя и сложно, но возможно. При этом с допустимой долей ошибки. Для этого придется принять:

1. Стоимость средней двухкомнатной квартиры в ценах 1984 г. составляла в среднем 10000 руб. (десять тысяч рублей).

2. Работник средней квалификации при недоплате ему государством 33 руб. в месяц окупил свою квартиру, полученную от государства, за 25 лет. К тому времени он имеет возраст 45 лет и практически взрослых детей.

3. Сметная стоимость строительства в 1991 г. возросла в 2 раза, а в 1992 г. к 1991 г.—в 10 раз (как минимум)—а всего к уровню 1984 года—в 20 раз.

4. В условиях рынка работник средней квалификации имеет возможность заработать средства в размере 10000 рублей в ценах 1984 г., откладывая от своей зарплаты за 25 лет, что составит при новом уровне цен и зарплаты порядка 200.000 рублей.

Все расчеты сводим в таблицу.

| Стаж работы, лет | Коэффициент отработки жилищной квоты | Погашена жилищная квота (в ценах 1984 года) | Размер доплаты за квартиру или размер квоты очередника | То же в ценах 1992 г. при к=20 | Срок погашения доплаты за квартиру | Размер выплат год/месяц |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 25 | 1,0 | 10000 | — | — | — | — |
| 20 | 0,8 | 8000 | 2000 | 40000 | 10 лет | 4000 333 |
| 15 | 0,6 | 6000 | 4000 | 80000 | 20 лет | 4000 333 |
| 10 | 0,4 | 4000 | 6000 | 120000 | 30 лет | 4000 333 |
| 5 | 0,2 | 2000 | 8000 | 160000 | 40 лет | 4000 333 |
| 1 | 0,04 | 400 | 9600 | 192000 | 50 лет | 4000 333 |

Таким образом, бесплатно получают в собственность квартиры граждане, имеющие трудовой стаж 25 лет и более. Остальные должны выкупать квартиры в рассрочку. Размер доплаты зависит от трудового стажа на 1.01.1992 г. Этот размер доплаты составит в ценах 1984 г. от 2000 до 9600 руб., а в ценах 1992 г.—от 40000 до 192000 рублей. В зависимости от стажа работы на 1.01.1992 г. устанавливается и срок погашения кредита жилищной квоты, от 10 до 50 лет. Размер ежегодного и ежемесячного взноса—годовой и месячный—одинаков для всех групп стажа: 4000 руб. или 333 рубля в месяц. Такой размер взноса вполне посилен для населения, находящегося в трудоспособном возрасте.

Следуя такому подходу бесплатно получат жилье все пенсионеры, люди, отработавшие (отслужившие в армии, в органах МВД) 25 лет и окупившие свое жилье на протяжении своей трудовой деятельности.

Люди, которые становятся в очередь на жилье, получают жилищную квоту в размере 200 тыс. руб. Для предотвращения махинаций и спекуляций с квотами надо запретить использовать ее на другие цели, кроме приобретения жилья.

При этом размер жилищной квоты устанавливается в обратном порядке (смотри таблицу): при стаже в 25 лет она равна 200 тыс, рублей, при стаже в 20 лет она равна 160 тыс. руб., при стаже в 15 лет она равна 120 тыс. руб., при стаже 10 лет она равна 80 тыс. руб., при стаже 5 лет она равна 40 тыс. руб. Промежуточные размеры определяются интерполяцией.

Такой подход понятен, имеет в своей основе зависимость от стажа работы. При изменении цен 1992 г. на жилье квота и доплата индексируются.

*Нам пішуць з замежжа*

# Беларусы ў Канадзе

**У мінулым нумары чытачы маглі азнаёміцца з артыкулам пра беларусаў Аўстраліі. Сёння мы прапаноўваем вашай увазе матэрыял Кастуся Акулы, нашага земляка, вядомага беларускага пісьменніка і грамадскага дзеяча, пра нашую эміграцыю ў Канадзе.**



*К. АКУЛА, што нарадзіўся ў 1925 г. пад польскай акупацыяй каля Крулеўшчыны ў Верацеях, беларуска-канадыйскі пісьменьнік, адзін зь першых заснавальнікаў беларускага нацыянальнага, культурнага і рэлігійнага жыцьця ў Канадзе ў 1947 годзе.*

10-га чэрвеня 1947 году, пасьля пяцідзённага падарожжа з ангельскага порту Саутгамптон, мараплаў «Аквітанія» прычаліў да прыстані ў канадыйскім порце Галіфакс. Адна тысяча семсот пасажыраў «Аквітаніі» прыглядаліся скваплiва «новаму сьвету». Гэта была другая група з тых чатырох тысячаў жаўнераў польскіх збройных сілаў, што ваявалі пад брытанскай камандай, каторым вось цяпер канадыйскі ўрад даў контракты на працягу двух гадоў працаваць на сельскай гаспадарцы за мінімум - аплатай 45 даляраў на месяц, плюс харчы й памяшканьне. Падарожжа гэтых людзей аплаціла Вялікая Брытанія, а канадыйская камісія фармараў дакладна аглядала «навабранцаў» у прыёмным абозе (лягэры—Рэд.) ў Англіі, пыталася: ці «ўмееце коньмі кіраваць», зямлю ці любіце, ну й—ага,—ці можаце ад цямна да цямна...

І вось чаму казалі, пасьля, памятаю, мае калегі, што «і ў Канадзе няма канады». Я пасьля даведаўся, што ня так лёгка самая Канада пастанаўляла даць дазвол на ўезд, зрабіць ласку гэтым жаўнерам, сярод якіх была маса Беларусаў. Патрэбная была пастанова парлямэнту, а ў той-жа час яшчэ нікто не хацеў ламаць рогі «саюзьнікам» камуністам, якія крычалі разам з Вышынскім на форуме АН, што палякі—фашысты, іх-бы во трэба было адправіць на Сібір.

Я памагаў хаўрусьнікам выратаваць немцаў з Італіі.

І дзіва няма, што незадоўга і я трапіў у «фашысты», калі паехаў у Тароньце шукаць Беларусаў. Пасьля трох месяцаў на фарме, дзе я й 60-гадовы містар Рой Вілсан даілі 35 кароў, апрацоўвалі фарму 80 гэктараў, удалося мне з знаёмым суседам, гэткім-жа, як і я, ваенным вэтэранам, выбрацца ў Таронта.

Тады тут жыло 600 тыс. (цяпер звыш 3 мільёнаў). Мы ведалі ўжо, што тут сканцэнтраваная прамысловасьць, ёсьць маса нашых братоў Славянаў. Пра Славянаў, колькі іх тут, якія яны тут, даведаліся ў абозе ля Кінгстану, калі нашыя бізнэсмэны з Таронта прыяжджалі нас вітаць.

Пакуль разьмеркавалі нас на працы, пэўны кароткі час затрымаліся мы былі ў тым абозе і вось дзівіліся, што да нас прыяжджалі пераважна Славяне, каторыя яшчэ не забыліся свае мовы, рэклямавалі свае крамы, дзе танна купіш чаравікі ці вопратку, або харчы, направіш гадзіньнік... Гэта былі дробныя гандляры, пераважна Палякі або Украінцы. Я дзівіўся тады, чаму нас, гэроя́ў спад Монтэ Касыно й Балёніі ніхто не прывітаў ад канадыйскага ўраду... Гэта зразумеў шмат пазьней. Першы крок да... дэмакратыі.

У Тароньце зайшліся мы ў нейкі малы гатэль якраз насупраць ратушы на паўдзённым баку Квін вуліцы. Падыходзім да «галоўнага», нейкага старэйшага лысуна, што сядзеў пры тэлефоне й бізнэсавай кнізе. Перад ім ляжала газэта,—паверыце, ці не?—«Вестник». Вось чаму ўсё пачалося ад «здрасьце». Спытаўся я яго, ці ёсьць у горадзе Беларусы, дзе іх знайсьці.

—Да есть у нас и закарпатские, и волынские и гродненские белорусы...

Можна было й разрагатацца, але не выпадала. Чалавек вытлумачыў нам як туды даехаць.

За нейкай паўгадзіны мы прыкпыпалі ў пакой «Фэдэрацыі рускіх Канадцаў»—на Дэнісон вуліцы. Вось гэты «бізнэсавы» пакой нас адразу насьцярожыў. Са сьценаў пазiралі аж чатыры ўжо раней дома баханыя партрэты «прарокаў»: адзін барадаты, тут-жа пэйсаты, адзін лысы жулікаваты, і чацьвёрты—васпаваты. Тут-жа вялікі лозунг крычаў пра «непабедзімую і слаўную», которая сама палажыла на лапаткі «фашыстоўскую Германію». Вось як. Пры даўгім стале крыху направа ад уваходных дзьвярэй тры дзядзькі із саюзнапэньсіянерскімі тварамі спынілі сваё даміно й пазіралі на нас. На тым-жа даўгім стале цэлая горба «хаўруснай» прапаганды.

Пакольki-ж мы лупцавалі тую «фашыстоўскую Германію» зь іншага боку дык, выглядала, што трапілі да хаўрусьнікаў. А каторыя зь іх закарпацкія ці валынскія беларусы?

Нехта зь іх буркнуў «здрасьця» і спытаўся, адкуль мы. Сказалі, што з фармы. А раней адкуль? З восьмай брытанскай арміі, польскага корпусу Андэрса.

Тэмпэратура ў пакоі адразу падскочыла, гульнянікі ў даміно паждавелі, скора пабольшала ў пакоі народу. І неўзабаве мы трапілі ў «фашысты». Аказваецца, гэтыя людзі, што пачалі «баявы наступ» на нас, ведалі ваенную Эўропу лепш, чым мы. Пра тое, што Сталін мардаваў (забіваў—Рэд.) сваіх, а памагаў «саюзнай Германіі», да чэрвеня 46 году—ані слова. Нас абступілі. Небяспека—давялося ўцякаць. Вось, коратка гаворачы, так адбылася гістарычная сустрэча нас зь «беларусамі» Канады ўлетку 1947 г.

***

Колькі-ж у Канадзе Беларусаў? Ніхто дакладна ня ведае. У гэтай дзяржаве некалі рэгістравалі нашых эмігрантаў паводле грамадзянства дзяржавы зь якой яны прыязджалі, дык, безумоўна, нашыя суродзічы былі запісаны ў лік суседзяў. Прафэсар аттаўскага унівэрсытэту В. І. Кэй, сам з паходжаньня Украінец, у сваёй працы «Канадыйцы беларускага паходжаньня» (выд. 1960 г., Аттава) мяркуе, што іх звыш 30 тысяч, а пятая часьць з гэтага ліку бярэ ўдзел у зарганізаваным беларускім жыцьці. Сп. Кэй, некалі робячы пошукі ў архівах, калі пісаў працу пра Украінцаў, казаў нам, што знаходзіў шмат людзей з Горадзеншчыны, Меншчыны й Віленшчыны, каторыя ў асноўным жылі ў сярэдніх сельскагаспадарчых правінцыях Канады, ды апынуліся ў архівах таму, што ў канадыйскім войску змагаліся падчас першай сусьветнай вайны ў зах. Эўропе, у Францыі.

«Гісторыю Беларусаў у Канадзе» напісаў і Янка Садоўскі, (Выд. «Міка публ.», Бэлэвіл, 1981), нейкі час выкладчык расейскай мовы ў Квінс унівэрсытэце ў Кінгстан. Ён канцэнтраваўся пераважна на дакумэнтацыі новай пасьляваеннай сьведамай беларускай эміграцыі. Паводле яго, лік Беларусаў у Канадзе—перавышае 100 тысячаў.

Бальшавіцкі агітатар Георгі Окулевіч, цэлае сваё сьведамае жыцьцё служыў у тарoнцкім расейскамоўным «Вестнике» і прасавецкіх арганізацыях. Пры канцы 1968 г., за маскоўскія фонды выдаў у Тароньце брашуру «50 лет белорусской республики», у якой намагаўся сабраць бальшыню прапаганды пра беларускіх «бебурнацаў» і «фашыстаў», праслаўляць антынародныя маскоўскі каляніяльны рэжым і ягонае дзяцішча—бэсэсэрыю. Атрымаўся чарговы паклёп на сумленных беларускіх патрыётаў і паняволены народ удома да тых, што змагаліся з камунізмам на эміграцыі.

У пяцідзясятым годзе я падаў заяву на канадыйскае грамадзянства. Дзяржаўны ўраднік адмовіўся запісаць Беларусь як дзяржаву, адкуль я паходжу, згодна зь ім нельга было мне даць і беларускай нацыянальнасьці. Я накінуўся на яго з абурэньнем і заняло мне аж чатыры гады, пакуль запісалі мяне Беларусам і стаўся Канадыйскім грамадзянінам. Ведаю і іншых суродзічаў, якія гэтаксама стаялі за сваю беларускасьць. У часе перапісаў даводзілася змагацца з ураднікамі, якія нічога ня ведалі пра Беларусь і цягнулі нас зноў-жа ў нейкія падсуседзі. І дзіва няма таму, што ў выніку канадыйскіх цэнзусаў мы апынуліся нейдзе сярод «іншых» у дзяржаўнай статыстыцы.

Дагэтулішнія дасьледнікі Беларусаў у Канадзе згодныя, што нашыя суродзічы пачалі пасяляцца тут у канцы мінулага й пачатку цяперашняга стагодзьдзя. Былі гэта пераважна земляробы й рабочыя. Тое самае адбывалася й між войнамі ў Эўропе. Тады ў бальшыні траплялі сюды людзі спад польскае акупацыі. Інтэлегенцыі між іх ня было, а камуністычныя агітатары й Палякі цягнулі іх у розныя бакі.

Канада ёсьць другая вялічынёй у сьвеце, у бальшыні незаселеная яшчэ і сёньня, бо мае ўсяго 26 мільёнаў людзей. Адлегласьці паралiжавалі дзейнасьць у засягу краіны. Цяпер, у век кампютараў, гэта лягчэй, ды ўсё-ж многа каштуе. Спрабуйце ў такой краіне выдаваць беларускую газэту (а тут былі, пераважна месячныя дый цяпер «Зважай» выходзіць), калі зможаце мець сотню падпішчыкаў, а вечна будзеце апэляваць, каб давалі ахвяры. У масавых эміграцыях ёсьць і свой бізнэсавы сэктар,—крамы, прадпрыемствы рознага профілю,—якія рэклямуецца, памагае друку. А ў нас такога няма.

Найнавейшая нашая эміграцыя пачала зьяўляцца тут ужо на прыканцы 1946 года з брытанскай арміі (польскага корпусу) у Італіі. Пасьля-ж, ужо ў пачатку 50-х гадоў, эміграваЛі сюды тыя суродзічы, якія былі ў часе вайны апынуліся на працах у Нямеччыне ды якіх не палавіў пасьля вайны, пры помачы «хаўрусьнікаў» Брытанцаў і Амэрыканцаў берыеўскі КГБ, ды не вывез іх у Сібір замардаваць, так як туды трапіла каля паўмільёну нашых суродзічаў зь Нямеччыны.

Такім чынам, пасьля апошняй вайны ў Канаду трапіла нейкая колькасьць беларускай інтэлігенцыі, палітычнай эміграцыі, што сьведама рашыла астацца на чужыне й змагацца за вызваленьне запрыгоненай Маскоўшчынай Беларусі. Былі тры галоўныя перашкоды: грамадзтва Канады й палітыкі, якія нічога пра Беларусь ня ведаюць, недахоп сувязі між новапрыбылых суродзічаў і брак фінансаў.

Згуртаваньне Беларусаў Вялікай Брытаніі ў сваім часапісе «На Шляху» падало да ведама мой адрас на фарме ў Ашаве, каля Таранта, дзе я працаваў, і раіла суродзічам навязваць між сабою сувязь. Пачалі да мяне прыходзіць лісты з пытаньнямі: што й дзе ў нас ёсьць, што рабіць, як гурткі ствараць і інш. З гэтага вынікала, што ёсьць многа агульных пытаньняў, якія асобна лістамі нікому ня вытлумачыш. Дзеля гэтай мэты трэба выдаваць нешта.

У лютым 1948 г. выйшаў першы нумар часапісу «Беларускі Эмігрант», які выходзіў месячна і пасьля ўжо ў газэтнай форме. Наладзіліся сувязі між перадавымі ў дзейнасьці людзьмі і ўжо ў канцы лістапада паўстала ў Тароньце Згуртаваньне Беларусаў Канады. Гэта папярэдніца ўсіх нашых нацыянальных арганізацыяў у Канадзе, што йснуе й цяпер. Былі-ж, вядома й іншыя, што скора паўставалі й прападалі. Цяпер ЗБК мае свае адзьдзелы, маёмасьць. Дзякуючы яму і галоўна цяперашняму мітрапаліту Беларускай Аўтакефальнай Царквы Мікалаю паўстала й свая царква. Таронцкая парафія Сьв. Кірылы Тураўскага вельмі абшырная тэрыторыяй—прыблізна велічыні цяперашняй Рэспублікі Беларусь. Чаму гэта так? Ды таму, што суродзічы нашы ў правінцыі Антарыё сталіцай якое ёсьць Таронта, жывуць раськіданыя па цэлым вялікім Антарыё, якое абшырнёй за Беларусь у тры разы.

Што-ж рабіла й чым займалася ЗБК? Яно памагала інфармацыяй новым эмігрантам, як магло арганізавала помач нашым студэнтам у Эўропе, памагала выдавецтвам, школам беларускай мовы для дзетак, парафіям БАПЦ дый найбольш сумленна й бесьперапынна пашырала праўду аб паняволенай Беларусі, заклікала вольныя дзяржавы й народы памагчы паняволенай бацькаўшчыне вызваліцца з маскоўскага ярма. Яно-ж і змагалася зь мясцовымі камуністамі ня толькі ў мясцовай прэсе, але і ў дэманстрацыях на вуліцах канадыйскіх гарадоў. Гэта былі супольныя намаганьні. Побач нас стаялі прадстаўнікі іншых паняволеных бальшавіцкай Маскоўшчынай народаў.

Адбываліся навуковыя канфэрэнцыі па беларускія тэмы ў канадыйскіх унівэрсытэтах, выдаваліся кніжкі й газэты. У 1952-м годзе з нашай ініцыятывы каля вадаспаду Нягары зарганізаваная была сустрэча беларускай моладзі з ЗША і Канады. Яна палажыла пачатак пава̀жнай інстытуцыі—двухгадовым сустрэчам Беларусаў Паўночнае Амэрыкі. Вось сёлета ў версе адбудзецца каля Нью Ёрку ўжо дваццатая. Вага гэткіх сустрэчаў аграмадная. Яны давалі стымул беларускаму эміграцыйнаму жыцьцю ўва ўсіх галінах і палітычна заўсёды й пастаянна выказваліся за вызваленьне Беларусі з маскоўскага ярма.

У 1966-м годзе, намаганьнямі Беларусаў з Таранта купілі 260 акраў фарму каля возера Манітавабінг, 180 міль на поўнач ад Таранта. Кавалак зямлі падарылі парафіі БАПЦ у Тароньце, а там заснавалі беларускую вёску, якую назвалі Слуцак. І цяпер на парафіяльнай маёмасьці добра дагледжаны дом на восем пакояў, дзе можна пераначаваць, а збоку лавіць рыбу ў суседзтве суродзічаў, каторыя на сваіх дзялках у Слуцку пабудавалі сабе дамы.

Цяпер існуе ў Канадзе Фонд Помачы Беларускім Ахвярам Чарнобыля. Летась было тут зь Беларусі 65 дзетак, сёлета мае быць 95. Дзякуючы працы нашых суродзічаў, Канадыйцы, каторыя маюць рэсурсы, таксама памагаюць ахвярам Чарнобыля.

Канадыйскіх Беларусаў знойдзеш у розных прафесіях і галінах жыцьця. На вялікі жаль, біялагічных Беларусаў-Канадыйцаў і цяпер больш сярод Палякаў ці Расейцаў, чымся ў нашых арганізацыях ці сьвятынях. Гэныя людзі, каторыя й сяньня на чужыне ёсьць рэнэгатамі свайго народу, гэта «тараканы ў саладусе», пераважна матэр'ялісты, нацыянальна нясьведамыя стараліся «выйсьці ў людзі», а трапілі ў чужое кодла. Што зробіш?

Пра Беларусаў Канады ня толькі можна, але й патрэбна напісаць салідна апрацаваную, аснаваную на праверaных фактах, кнігу. Яны шмат чаго зрабілі для паняволенай бацькаўшчыны, каб прысьпешыць ейнае вызваленьне, дый ня менш зрабілі для бацькаўшчыны сваіх дзяцей.

**К. АКУЛА.**

# ПРАВДУ, ПРАВДУ, ОДНУ ТОЛЬКО ПРАВДУ...

## К БЕЛОРУССКИМ ЧИТАТЕЛЯМ

Год назад в московской газете «Голос» (№ 28, 1991 г.) была опубликована моя статья, посвященная трагической судьбе Петра Машерова. Статья вышла в свет под не слишком удачным редакционным заголовком (сотворенным из фразы авторского текста)—«Что было бы, если бы в «Чайке» вместо Машерова ехал Черненко?». В период редакционной подготовки текста меня в Москве не было, поэтому любая редакционная правка и внесенные редакцией сокращения не могли быть согласованы. Между тем, авторский заголовок, лишенный какого-либо налета сенсационности, на мой взгляд, куда точнее отражал и содержание, и цель публикации—«Будут ли ответы?..»

Лето 1991 года—лето тревоги нашей—сменилось осенью светлых надежд и новых тревог. Наивно, конечно, было бы ждать однозначного наступления некоей лучезарной безоблачности. Однако, среди многих «просветов в тучах» несомненна и гораздо большая, чем во все былые времена, возможность глубокого ретроспективного осмысления минувших десятилетий. И газета «Советский патриот», с которой мне и раньше приходилось сотрудничать, предоставила свои страницы для полной публикации моей статьи—под заголовком «Погиб или?..» она появилась в октябре 1991 г. в 41-м номере. Не могу не вспомнить, по весьма тоскливому контрасту, как за год «до того» я предлагал эту статью то одной, то другой редакции. Мне отвечали: «Не наша тематика», «Мы не можем». Или—совсем уже прямо: «Нам не рекомендовали...». Наивно, конечно, было бы предполагать, что ведомство Крючкова, к примеру, ощущало восторг от возможного раскрытия многих «белых пятен» нашей истории. Тем более, что иные пятна оказываются черными...

Почему я, музыкант, заинтересовался личностью Машерова? Этот вопрос мне задавали не раз. Интерес этот, действительно, пришел не самым обычным путем. Будучи фольклористом-исследователем, я уже много лет изучаю не только русский музыкальный фольклор, но и напевы и наигрыши других народов (эта область искусствознания называется «сравнительной фольклористикой»). Что же касается белорусского музыкального фольклора, то интерес к нему не ограничился исследованием—несколько лет назад я написал на основе подлинных народных мелодий сюиту "Белорусские напевы и наигрыши». И конечно же, интерес к музыкальному фольклору неотделим от более широкого постижения духовной культуры народа. И общение с белорусскими музыкантами всегда приносило мне радость. Впрочем, не только с музыкантами, да и не только мое общение. Мой московский коллега как-то рассказал мне интересный эпизод своей концертной поездки в Беларусь. После концерта в одном из колхозов, во время радушного застолья, он сказал, обращаясь к хозяевам: "Что мне у вас нравится, так это то, что у вас все свое—не привозное!». И тут председатель колхоза подал реплику: «Вы совершенно правы,—у нас все свое. У нас даже во время оккупации все было свое—вот только полицаев немцы привозили...»

Через некоторое время после опубликования статьи «Погиб или?..» возникла необходимость вернуться к этой теме. Причина—появление трех публикаций, о которых ниже пойдет речь. Так появилась статья «Можно ли ставить точку?» («Патриот», № 23, 1992 г.). В ходе подготовки материала я согласился с необходимостью ограничить изложение размерами газетной полосы. Однако за пределами статьи при этом остались многие интересные, на мой взгляд, моменты—например, аналогии с некоторыми трагическими страницами российской истории. И представляемая читателям «Выбара» статья «Можно ли ставить точку?» является по существу новой, гораздо более широкой публикацией на волнующую меня тему.

Полагаю нужным предупредить еще один вопрос (однажды уже мне задававшийся). Нет, я не собираюсь писать монографию о Машерове. Ведь у каждого в жизни должно быть, прежде всего, то самое главное, что за него не сделает никто другой. И у автора этих строк в процессе издания—пятая исследовательская монография, посвященная гениальному творчеству Сергея Прокофьева. Мечтаю и о продолжении фольклорных исследований. Но все это, так сказать, «во-вторых». А «во-первых»—я глубоуо убежден в этом—монография о Машерове должна быть создана белорусским исследователем, честным и бескомпромиссным, в необходимом созвучии с душевными качествами самого Машерова. И написана она должна быть чистыми руками, не запачканными ни угодливой конъюнктурностью, ни непристойной подтасовкой позиций и фактов.

Что же касается моего предложения о создании парламентской комиссии Верховного Совета Республики Беларусь, то, наверное, не мне одному было бы интересно узнать мнение по этому вопросу такого достойного сына белорусского народа, как Василя Быкова. Так же, как и мнение академика Александра Яковлева, в свое время принимавшего активное участие в расследовании обстоятельств убийства Кирова. Добавлю, что, исходя даже из одного лишь упоминания (в приводимой ниже публикации в «Известиях») в совершенно определенном контексте зловещего имени Чурбанова, должно быть ясно: независимое и глубокое расследование трагедии 4 октября 1980 года должно вестись отнюдь не только в Минске.

Пользуясь предоставленной мне редакцией газеты «Выбар» возможностью, хочу пожелать уважаемым гражданам Республики Беларусь, в том числе жителям Витебщины, «малой родины» Петра Мироновича Машерова, самого главного—большого человеческого Счастья. Ведь во имя этого-то он и жил, и трудился—каждодневно и ежечасно.

Итак, две публикации. Первая «Погиб или?...», вторая—в новой редакции для «Выбара»—«Можно ли ставить точку?».

**Владимир БЛОК,**
**композитор, член Международного общества А. Н. Скрябина и Международного общества Золтана Кодая.**

**Москва.**

# ПОГИБ ИЛИ?..

*Недепутатский запрос*

**29 августа 1980 года, Алма-Ата. Торжественное заседание. Телепрограмма «Время» крупным планом показывает Л. И. Брежнева. Его приветствует Машеров. И тут происходит нечто беспрецедентное —генсек-маршал отворачивается с гримасой нескрываемого неудовольствия и раздражения...**

**А 4 октября 1980 года Машерова не стало—погиб «в результате автомобильной катастрофы», как было сказано в официальном сообщении.**

Вехи жизни Петра Мироновича почти полностью вмещаются в сухих энциклопедических данных. Родился в 1918 году в деревне Ширки, ныне Сенненского района Витебской области. Герой Советского Союза (15.08. 1944), член КПСС с 1943 года. Окончил Витебский пединститут, учитель физики и математики. С начала Великой Отечественной войны возглавлял подпольную комсомольскую организацию и был одним из руководителей партизанского движения в Россонском районе Беларуси. Командовал партизанским отрядом им. Щорса, был комиссаром партизанской бригады им. Рокоссовского. С ноября 1943 г. первый секретарь Вилейского подпольного обкома ЛКСМ Белоруссии. В 1944—46 гг. первый секретарь Молодечненского обкома, в 1946—1954 секретарь, затем первый секретарь ЦК ЛКСМ Белоруссии. Был секретарем Минского обкома, а затем первым секретарем Брестского обкома КП Белоруссии. С марта 1965 г. первый секретарь ЦК КП Белоруссии.

С апреля 1966 года кандидат в члены Политбюро ЦК КПСС, с 1966 г. член Президиума Верховного Совета СССР. Награжден 5 орденами Ленина, а также медалями.

Непосредственным предшественником П. Машерова на посту первого секретаря ЦК Компартии был Кирилл Мазуров. До этого их жизненные пути шли рядом, а еще точнее, дорога на протяжении многих лет была одна. В 1942 году Мазуров был направлен во вражеский тыл Центральным штабом партизанского движения, одновременно он был секретарем подпольного ЦК ЛКСМ Белоруссии. Машеров же незадолго до этого организовал партизанский отряд имени Щорса, действовавший в лесах Витебщины. Позже в своей книге «Незабываемое» Мазуров напишет: «Жизненный путь, вся трудовая деятельность П. М. Машерова после войны—это путь преданного Родине и партии коммуниста. Его всегда отличали честность и принципиальность, большое трудолюбие, упорство в достижении цели, общительность и чуткость в обращении с людьми». Спору нет, честность и принципиальность присущи миллионам людей. Но здесь, в партизанском краю, каким была в годы войны вся Белоруссия, эти душевные качества проходили особую закалку.

Лишь однажды запечатленная пред глазами всей страны брежневская гримаса высочайшего неудовольствия, конечно, выражала отношение не к одному только Машерову. В беседе с корреспондентом «Советской России» (19 февраля 1989 г.) К. Мазуров коснулся причин своего выхода из Политбюро в 1978 году. Получив закрытую информацию о спекуляциях дочери Брежнева во Франции, «напомнил, что его авторитет—это наш общий авторитет. Он резко отчитал меня—не лезь не в свое дело. И по другим поводам стычек было немало. Наконец, однажды мы сказали друг другу, что не хотим работать вместе. Я написал заявление...»

9 сентября 1987 года беседу с К. Мазуровым опубликовала «Комсомольская правда». На вопрос Ядвиги Юферовой: «Как удавалось вам в свое время уберечь Белоруссию от циркулярных «перегибов», которые шли сверху?», Мазуров ответил: «Мне, да и многим другим партийным работникам в Белоруссии, повезло на учителей—по-государственному мыслящих, умных руководителей, хороших людей». И назвал Пантелеймона Кондратьевича Пономаренко, первого секретаря ЦК Компартии Белоруссии, одновременно с 1942 года возглавлявшего Центральный штаб партизанского движения. Вот она, живая преемственность борцов, людей долга и чести!

К каким же последствиям, однако, приводило порой высочайшее неудовольствие? Не при сталинщине (тут все почти однозначно)—при брежневщине? Когда нет прямых доказательств (или они неизвестны), особое значение обретают свидетельства живых современников.

2 сентября 1989 года в «Правде» опубликована статья В. Черткова «Почетный гражданин». Опубликована, на мой взгляд, под очень точной рубрикой—«Люди поступка». Статья эта об Эдуарде Болеславовиче Нордмане—почетном гражданине города Пинска, белорусском партизане, впоследствии председателе КГБ Узбекской ССР. Активному участнику событий, ему приходилось общаться с П. Машеровым, К. Мазуровым, Ю. Андроповым, А. Косыгиным, Ф. Кулаковым и другими государственными деятелями, оставившими неизгладимый след в его жизни. В период работы в Узбекистане Нордман ближе других соприкоснулся с рашидовщиной. Это зловещее и злокачественное явление еще не стало нарицательным понятием, но уже расцветало полным цветом. Однажды пришлось выступать на республиканском партийном активе в Ташкенте. «Сказал, что хотел, обдумывая ночами свое выступление... получилось без намеков и экивоков достаточно ясно, чтобы стать врагом Рашидова. Даже Андропов не удержался и сказал, может, в следующую секунду пожалев об этом: «И что ты вылез на трибуну... Ты мне живой нужен в Узбекистане».

Председатель КГБ СССР ходил меж двух замов, Циневым и Цвигуном—глазами и ушами Генерального, и, конечно, пойти в открытую на заступничество, когда дело касалось брежневского любимчика, не мог».

Его упреждающая тревога

